# Наша Свабода

№130(217) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

30 ЛІСТАПАДА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


## ЗАЯВЛЕНИЕ главных редакторов

12 ноября 2001 года судья Высшего Хозяйственного суда Республики Беларусь В.Жандаров вынес судебный приговор газете «Пагоня». Газете, которая была у истоков зарождения независимой прессы Беларуси.

Судью Валерия Жандарова не остановило даже то, что министерство информации (ранее — Госкомитет печати), якобы в интересах которого прокуратура Гродненской области предъявила иск о закрытии газеты и ликвидации редакции, официально заявило, что не видит правовых оснований для принятия репрессивных мер по отношению к «Пагоне».

Мы считаем, что закрытие газеты «Пагоня» и ликвидация редакции — это очередной шаг по ущемлению свободы слова, удушению независимой прессы. Циничным выглядит то, что репрессии происходят на фоне декларативных заявлений властей о либерализации общественно-политической и экономической жизни Беларуси.

Считая решение Высшего Хозяйственного суда необоснованным, мы обращаемся к председателю ВХС В.Каменкову, высшим должностным лицам Прокуратуры Республики Беларусь с требованием восстановить законность и внести протест на решение судьи В.Жандарова.

Заявляя о приверженности общепризнанным демократическим ценностям, Республика Беларусь, все ветви ее власти должны на деле продемонстрировать соблюдение норм, выработанных мировым сообществом.

**Главные редакторы газет:**
**«Народная воля» — Иосиф СЕРЕДИЧ;**
**«Белорусская деловая газета» — Петр МАРЦЕВ;**
**«Наша свобода» — Павел ЖУК;**
**«Свободные новости» — Александр УЛИТЕНОК;**
**«День» — Александр ТОМКОВИЧ;**
**«Рабочы» — Виктор ИВАШКЕВИЧ;**
**«Беларускі час» — Александр СТАРИКЕВИЧ;**
**«Белорусский рынок» — Вячеслав ХОДОСОВСКИЙ.**

СЕНСАЦЫІ

## «Групоўка Ігнатовіча ня мае дачыненьня да зьнікненьня Завадзкага»

*Пра гэта заявіў у інтэрвію радыё «Свабода» былы супрацоўнік КДБ Генадзь Угляніца.*

Былы супрацоўнік КДБ Генадзь Угляніца і актывіст арганізацыі «Край» Андрэй Жарнасек зараз у Нарвэгіі. Карэспандэнт радыё «Свабода» зьвязаўся з Генадзем Угляніцам.

– ***Першае пытаньне, якое мы б хацелі задаць: як Вы ўладкаваліся? Ці адчуваеце Вы сябе ў небясьпецы? Ці маеце магчымасьць кантактаваць з блізкімі?***

– Уладкаваліся мы тут нармальна. Улады ня толькі Нарвэгіі нармальна нас прынялі, але ўлады ўсіх краінаў, праз якія мы сюды ехалі і з уладамі якіх мы сутыкаліся ў працэсе выезду – усе гэтыя краіны добра ведаюць пра сытуацыю, якая склалася ў Беларусі. Таму яны зрабілі ўсё, каб праз іхную тэрыторыю мы маглі выехаць. Тут праблемаў не было.

*Заканчэньне на стар.3*




Аздобай беларускіх вуліц і будынкаў сталі плакаты з заклікамі берагчыся СНІДу. Тэма, як ні сумна, актуальная: у Беларусі на адмысловым уліку знаходзяцца амаль 4 тысячы чалавек, хворых на ВІЧ-інфекцыю.

# Лукашэнка працуе на кантрастах

*Трохдзённая камандзіроўка беларускага кіраўніка ў Маскву пачалася з сенсацыйнай навіны – праект Канстытуцыі Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, які Аляксандр Лукашэнка прывёз з сабой у Расію, прадугледжвае стварэнне пасадаў прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта. У якасці першага прэзідэнта гэтага пакуль яшчэ віртуальнага ўтварэння прапанавана кандыдатура... экс-прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына.*

Прыляцеўшы 28 лістапада ў Маскву, беларускі кіраўнік сумясціў адразу дзве падзеі – свой чарговы афіцыйны візіт у Расію і ўдзел у саміце, прысвечаным дзесяцігоддзю Садружнасці незалежных дзяржаваў.

У гэты ж дзень яго прыняў прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін – сустрэча «сам-насам» нават працягнулася тры гадзіны замест запланаваных 30 хвілінаў. Гэтая сустрэча была першай пасля пераабрання А.Лукашэнкі на найвышэйшую дзяржаўную пасаду. На ёй расійскі кіраўнік выказаў сваю прыязнасць да беларускага калегі, павіншаваўшы яго з «заканчэннем патрасенняў перадвыбарчага характару». У якасці старэйшага і больш дасведчанага таварыша ён патлумачыў, што гэта «непазбежныя выдаткі дэмакратычных працэдураў». У адказ У.Пуцін пачуў падзяку за падтрымку «на гэтай цяжкай стадыі», выказаней, чамусьці, ад імя ўсіх беларусаў – хоць сапраўды ўдзячным за расійскую падтрымку на выбарах мусіць быць толькі адзін.



Па словах расійскага прэзідэнта, падчас сустрэчы абмяркоўваліся асноўныя пазіцыі ўзаемадзеяння дзвюх дзяржаваў.

*Заканчэньне на стар.3*

## Зачем Хвостову в Бухарест?

*3 декабря в столице Румынии состоится заседание министров иностранных дел стран ОБСЕ. После недавно проявленного официальным Минском «гостеприимства» в отношении представителей ОБСЕ приезд главы белорусского МИДа в Бухарест представляется бессмысленным.*

Предстоящее заседание министров иностранных дел 55 стран-членов ОБСЕ является плановым мероприятием. На нем, в частности, Румыния передаст свои полномочия председательствующего Португалии.

Так как в Минске нет посольства этой страны, то кто-то из стран, имеющих посольство в белорусской столице, будет представлять нового председательствующего ОБСЕ. Продолжат свою работу и Консультативно-наблюдательная группа ОБСЕ в Беларуси. Правда, судя по некоторым заявлениям представителей официального Минска, после всех прошедших за последние два года выборов в Беларуси, делать этой группе больше нечего. А ее руководитель посол Вик и вовсе стал для руководства Беларуси невыносимым раздражителем. Периодически его даже выслать грозились за то, что он якобы стал центром оппозиции. И вот очередной приступ абсурда.

*Окончание на стр.3*



ВЕСТКІ



## Раскоша таксі

27 лістапада ў Беларусі зноў выраслі тарыфы на перавозку пасажыраў таксі. Гэтыя паслугі падаражэлі ў сярэднім на 13%. Кошт аднаго кіламетра цяпер складае ўдзень 350 рублёў (было 310), а ўначы – 525 рублёў (было 465). Кошт замовы машыны не зьмяніўся – 300 рублёў.

## Новы хабарнік за кратамі

Супрацоўнікі камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй па Мінскай вобласці затрымалі дырэктара найбуйнейшага ў Беларусі аўтамабільнага рынку «Гандлёвы свет «Колца» Аляксандра Васілеўскага. Яго абвінавачваюць у атрыманні хабару. Як стала вядома, дырэктара і яшчэ двух кантралёраў барацьбіты з карупцыяй узялі непасрэдна на месцы працы – на аўтарынку, які знаходзіцца ў вёсцы Азярцо непадалёк ад Мінскай кальцавой аўтадарогі – «за сістэматычнае вымагальніцтва з прадпрымальнікаў хабару за прадастаўленне працоўных месцаў».

## Пікет ля Купалаўскага тэатра

Сябры незарэгістраванага Маладога Фронту падалі ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне з 5 па 22 снежня пікетаванняў каля тэатра імя Янкі Купалы. Яны будуць пратэставаць супраць забароны па палітычных матывах, як на іхнюю думку, п'есы «Тутэйшыя». Спектаклі па гэтай Купалавай п'есе павінны былі адбыцца 14 і 15 лістапада, але былі адменены «па тэхнічных прычынах» – у сувязі са зношанасцю дэкарацыяў.

## Радзеем і хварэем

За апошнія 7 гадоў насельніцтва Беларусі скарацілася на 300 тысяч чалавек. І гэтая тэндэнцыя, па ўсім відаць, працягнецца, бо вялікую апаску выклікае здароўе моладзі. Напрыклад, усяго толькі каля 15% падлеткаў можна лічыць здаровымі. 40% ад астатніх маюць хранічныя захворванні.

## Пагроза абмежавання цяпла

Кіраўніцтва Брэсцкай вобласці, як падае БелаПАН, не выключае, што ў цяперашні ацяпляльны перыяд могуць быць уведзены абмежаванні падачы цяпла ў дамы, а таксама «веерныя» адключэнні электраэнергіі ў гарадах і раёнах вобласці. Пра гэта нібыта гаварылася на нарадзе ў старшыні Брэсцкага аблвыканкама В.Даўгалёва з удзелам прэзідэнтаў канцэрнаў «Белэнерга» і «Белпаліўгаз». Запазычанасць спажыўцоў Брэстчыны за электрычную і цеплавую энергію склала 52,2 мільярда рублёў, за газ – 14,5 мільярда.

НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1550

 



# «Групоўка Ігнатовіча ня мае дачыненьня да зьнікненьня Завадзкага»

*Заканчэньне, пачатак на стар.1*

Мы ня маем цяжкасьцяў з атрыманьнем інфармацыі, ёсьць інтэрнэт, мы можам тэлефанаваць. Зараз мы ня надта добра ведаем нарвэскую мову, таму газэтаў амаль не чытаем.

***– Зразумела, але, наколькі я разумею, Вы сочыце за падзеямі ў Беларусі?***

– Так, у асноўным мы атрымоўваем інфармацыю праз радыё «Свабода», праз «Рацыю», Хартыю, БелаПАН, сайты незалежных СМІ: БДГ, «Наша Свабода» і гэтак далей. Чытаем нават у інтэрнэце «Советскую Белоруссию», «Звязду», «Республику». Усё, што знаходзім.

***– Калі Вы сочыце за беларускай прэсай, Вы ведаеце, што ідзе суд над так званай групай Ігнатовіча, якую абвінавачваюць у забойстве журналіста Зьміцера Завадзкага. Ці валодаеце Вы нейкай інфармацыяй адносна Завадзкага?***

– Так, мы ведаем, што ідзе суд над групоўкай Ігнатовіча, якая зьдзейсьніла шэраг забойстваў. Ім інкрымінуюць і выкраданьне Зьміцера Завадзкага. На маю думку і на думку многіх людзей, зь якімі я размаўляў, яны – Ігнатовіч і яго групоўка – ня маюць ніякага дачыненьня да зьнікненьня Завадзкага. У нас ёсьць некаторыя зьвесткі ў гэтай справе.

Тэлефон Завадзкага праслухоўваўся. Справа ў тым, што Завадзкі выяжджаў у Чачэнію ня два разы, а тры. Пра дзьве свае камандзіроўкі ён расказаў, але пра трэцюю ён не казаў нікому. У часе той камандзіроўкі яго затрымлівалі ў Чачэніі, і ён пра гэта не хацеў ні з кім гаварыць. Паводле слоў тых людзей, з якімі ён размаўляў, гэта былі расейскія вайскоўцы. Але калі мы распачалі справу пошукаў Ганчара і Красоўскага і выйшлі на групоўку Зьмітра Паўлічэнкі, яго СОБР, нам стала вядома, што СОБР Паўлічэнкі ў сьнежні 2000 году, пасьля таго, як Паўлічэнку затрымваў Камітэт дзяржбясьпекі і потым са скандалам выпусьціў, а з пасадаў былі зьнятыя Бажэлка, Мацкевіч, дык вось, СОБР быў расфармаваны – яго былы склад, усе людзі з гэтага СОБРу ў асноўным паехалі ў Расею, і не куды-небудзь, а ў АМОН, служыць у АМОНе Расеі, у тым АМОНе, які потым ваяваў у Чачэніі.

***– Але гэта былі грамадзяне Беларусі?***

– Так. Я зараз дам слова Андрэю...

Андрэй Жарнасек:

– Я ведаю дакладна, што ў 1999 годзе зімой чальцы менскага СОБРу Паўлічэнкі ваявалі... Вось у чым справа.

***– І як гэта зьвязана са зьнікненьнем Завадзкага?***

– Шарамет рабіў фільм «Чачэнскі дзёньнік». Уявіце сабе, што 3-4 ліпеня на ўсіх гэтых мерапрыемствах, прысьвечаных сьвяту Рэспублікі і гэтак далей, Зьміцер Завадзкі выпадкова сустрэў на прысязе ў в/ч 3214, якая там была сьвяточная, тых людзей, якія затрымлівалі яго ў Чачэніі. Яны тады былі ў форме беларускага ўжо войска.



**Сяргей НАВУМЧЫК**
**Радыё «Свабода»**

# Лукашэнка працуе на кантрастах

*Заканчэньне, пачатак на стар.1*

У тым ліку – эканамічныя сувязі, вайсковае і вайскова-тэхнічнае супрацоўніцтва, знешняя палітыка.

А.Лукашэнка прывёз у Маскву праект дакумента пад назвай «Канстытуцыйныя прынцыпы Саюзнай дзяржавы». Агенцтва «Интерфакс» са спасылкай на неназваныя крыніцы ў выканаўчых органах Саюза Беларусі і Расіі паведаміла, што ў праекце закладзеныя пасады прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта Саюзнай дзяржавы. Тыя ж крыніцы паведамілі, што першым прэзідэнтам Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі мяркуецца прызначыць Барыса Ельцына.

Прапанаваўшы на гэтую пасаду кандыдатуру першага прэзідэнта Расіі, Аляксандр Лукашэнка відавочна спрабуе рэанімаваць сітуацыю канца мінулага тысячагоддзя, калі ледзь не ва ўсіх расіянаў вярхоўная ўлада іхняй краіны паўставала хворай і нядужай. Тады на фоне ледзь дыхаючага расійскага прэзідэнта вельмі выгадна глядзеўся спарталюбны беларускі сусед. Сітуацыя цалкам змянілася, калі ў канцы 1999 года Барыс Ельцын нечакана пайшоў у адстаўку і пакінуў замест сябе Уладзіміра Пуціна. «Гульня на кантрастах» адразу скончылася, прычым не на карысць беларускага кіраўніка. У.Пуцін амаль на два гады старэйшы за яго, але пры гэтым выглядае маладзейшым і нават больш энергічным. У выніку, расіяне амаль забыліся на свайго заходняга саюзніка, і цяпер прыгадваюць пра яго, толькі калі федэральныя тэлеканалы паведамляюць пра апошнія мінскія скандалы.

Выправіць гэтую прыкрую сітуацыю, відавочна, і імкнецца Аляксандр Лукашэнка. Разлік ідзе на тое, што хворы Ельцын не здолее аддаваць шмат часу кіраванню Саюзнай дзяржавай, і тады замест яго будзе актыўна праяўляць сябе віцэ-прэзідэнт. Пра асобу гэтага «віцэ» здагадацца няцяжка – гэта мусіць быць, натуральна, беларускі палітык («квота» Расіі будзе пакрытая Б.Ельцыным) і, натуральна, вельмі малады і энергічны чалавек, які будзе ведаць, куды павесці 160 мільёнаў (а можа, і болей?) аб'яднаных славянаў... Імя гэтага чалавека мусіць ведаць кожны і ў Беларусі, і ў Расіі. Вы яго ведаеце таксама.

Зрэшты, у апараце дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Паўла Барадзіна паведамілі, што насамрэч існуе яшчэ тры варыянты праектаў канстытуцыйных прынцыпаў. У якасці альтэрнатыўных варыянтаў кіравання новаўтвораным аб'яднаннем дзяржаваў разглядаюцца наступныя. Першы – што Саюзнай дзяржавай Беларусі і Расіі будуць кіраваць прэзідэнты дзвюх краінаў, займаючы пры гэтым пасады прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта і абменьваючыся імі кожныя два гады на прынцыпах ратацыі. Другі – прэзідэнт Расіі назаўсёды абвяшчаецца прэзідэнтам Саюзнай дзяржавы, а кіраўнік Беларусі – віцэ-прэзідэнтам. І трэці – найвышэйшым органам кіравання Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі будзе Вышэйшы дзяржаўны савет у складзе прэзідэнтаў, прэм'ер-міністраў і кіраўнікоў парламентаў дзвюх дзяржаваў.

Руса-бельскія чыноўнікі паведамілі таксама, што той варыянт, які найбольш спадабаецца А.Лукашэнку і У.Пуціну, ужо ў наступным годзе будзе вынесены на агульнанародны рэферэндум у абедзвюх краінах. «Хутчэй за ўсё, на галасаванне будзе пастаўлены ўжо гатовы тэкст канстытуцыі, якую атрымаецца хутка напісаць на гэтай падставе», – зазначаюць у апараце П.Барадзіна.

Плануецца, што ў Саюзнай дзяржавы будзе свой двухкамерны парламент, які будзе складацца з Сената і Палаты прадстаўнікоў. Будуць таксама дзейнічаць свой саюзны Савет міністраў, саюзныя кантрольныя і судовыя органы.

Сёння ж А.Лукашэнка сустракаецца з калегамі з іншых краінаў СНД – святкуе юбілей мёртванароджанага аб'яднання постсавецкіх дзяржаваў, якое так і не пачало працаваць.

Паводле дамоўленасці, дасягнутай Аляксандрам Лукашэнкам і Уладзімірам Пуціным, чарговае паседжанне Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі адбудзецца 26 снежня. Як паведаміў намеснік кіраўніка адміністрацыі расійскага прэзідэнта Сяргей Прыходзька, напярэдадні яго будзе падрыхтаваны цэлы шэраг рашэнняў у эканамічнай, навукова-тэхнічнай, заканадаўчай і культурнай галінах.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Сакрэтныя рахункі беларускай улады

Анатоль Лябедзька заклікае рассакрэціць рахункі беларускай улады ў швейцарскіх банках.

27 лістапада лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі А.Лябедзька ў Гародні правёў прэс-канферэнцыю і сустрэчу з партыйным актывам і грамадскасцю горада. Падчас сустрэчы з прадстаўнікамі рэгіянальнай прэсы ён заявіў пра свой намер звярнуцца да кіраўніцтва Еўрасаюза і Швейцарыі з прапановай рассакрэціць банкаўскія рахункі, якія могуць належаць кіруючай вярхушцы Беларусі. У апошнія гады адзначаны рост колькасці рахункаў, уладальнікамі якіх з'яўляюцца выхадцы з Беларусі. Міжнародныя эксперты звязваюць гэты факт з ростам карупцыі ў Беларусі.

Лідэр АГП лічыць, што паміж продажам зброі і рахункамі ў швейцарскіх банках можа існаваць непасрэдная сувязь.

**Прэс-служба АГП**

# Абвінавачанне Калугіну прад'явяць сёння

Дырэктар мінскага ЗАТ «Атлант» Леанід Калугін быў заключаны пад варту 21 лістапада, праз гадзіну пасля сустрэчы з прэм'ер-міністрам Беларусі Генадзем Навіцкім. Як паведаміла БелаПАН інфармаваная крыніца, на гэтай сустрэчы прысутнічаў і старшыня Камітэта дзяржкантролю Анатоль Тозік. Дырэктару «Атланта» было прапанавана добраахвотна пакінуць сваю пасаду, аднак ён адказаў, што 4 снежня адбудзецца сход акцыянераў ЗАТ і толькі яго ўдзельнікі могуць вырашыць – ісці яму ў адстаўку ці не. Пасля сустрэчы з прэм'ерам Калугін быў выкліканы ў Камітэт дзяржкантролю, дзе і быў затрыманы. Пасля змяшчэння ў следчы ізалятар ГУУС Мінгарвыканкама 61-гадовы Калугін аб'явіў галадоўку, аднак з прычыны пагаршэння стану здароўя вырашыў яе спыніць. Галадоўка працягвалася крыху больш за суткі.

Сёння яму будуць прад'ўлены абвінавачанні па артыкулах 424, частка 3 Крымінальнага кодэкса (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі); 225 (невяртанне з-за мяжы замежнай валюты); 233, частка 2 (незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць). Калугін, у прыватнасці, абвінавачваецца ў нямэтавым выкарыстоўванні крэдыту ў памеры 14,5 тысячы долараў ЗША, а таксама ў тым, што адмовіўся закрыць разліковы рахунак прадпрыемства ў адным з маскоўскіх банкаў і вярнуць у Беларусь сродкі, якія былі выручаны ад продажу халадзільнікаў у Расіі. Апрача таго, Калугін абвінавачваецца ў незаконным продажы золата і серабра.

Разам з тым, як лічаць некаторыя спецыялісты, дзеянні Калугіна, якія ставяцца яму ў віну, былі выкліканы вытворчай неабходнасцю. Напрыклад, згаданы крэдыт ён выкарыстаў на экстранную закупку запчастак, і гэта не дапусціла спынення вытворчасці «Атланта». Сусальнае золата і серабро было прададзена па безнаяўнаму разліку адной з фірмаў, якая займалася будаўніцтвам у Беларусі царквы прападобнага Сергія Раданежскага. Гэтая здзелка насіла разавы характар і была па сутнасці дабрачыннай акцыяй, паколькі Калугін – глыбока веруючы чалавек – не атрымаў ад яе правядзення ніякай асабістай выгады.

Дарэчы, работнікі прадпрыемства выступілі з заявай у падтрымку свайго дырэктара. Яны выказалі сумненні ў тым, што Калугін учыніў злачынствы, у якіх яго абвінавачваюць.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Рахманько пазбавяць недатыкальнасці?

У Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі з пракуратуры Рэспублікі Беларусь паступіў запыт аб пазбаўленні дэпутацкай недатыкальнасці члена СР Віктара Рахманько – былога начальніка Беларускай чыгункі. Крымінальная справа ў дачыненні да яго за злоўжыванне службовым становішчам была ўзбуджана 21 лістапада. Ужо з'явілася інфармацыя пра затрыманне Рахманько.

Член Савета Рэспублікі можа быць арыштаваны толькі з папярэдняй згоды палаты, «за выключэннем учынення дзяржаўнай здрады або іншага цяжкага злачынства, а таксама затрымання на месцы ўчынення злачынства». Такім чынам, калі праваахоўныя органы пайшлі на затрыманне Віктара Рахманько, дык ягоныя дзеянні кваліфікуюцца як цяжкае злачынства.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# Зачем Хвостову в Бухарест?

*Окончание, начало на стр.1*

Как известно, на днях Минск посетила рабочая группа по Беларуси Парламентской ассамблеи ОБСЕ во главе с ее новым руководителем Утой Цапф. Естественно, что в изучении ситуации, посланцам ОБСЕ помогает Консультативно-наблюдательная группа. Это ее компетенция и обязанность. Следует напомнить, что кандидатура посла Вика на пост руководителя КНГ в Беларуси была утверждена всеми членами ОБСЕ. И доверие ему неоднократно подтверждалось председательствующим и другими структурами ОБСЕ. А вот один из членов ОБСЕ стал постоянно демонстрировать в отношении посла Вика яростное неприятие.

На этот раз запланированная встреча г-жи Цапф с главой белорусского МИДа Хвостовым была сознательно сорвана. Министр решился поставить условие: встреча должна пройти без руководителя КНГ ОБСЕ. Очевидно, что белорусская сторона и не рассчитывала, что с этим согласятся гости.

Ни для кого не является секретом, что глава МИДа лишь выразил волю своего хозяина. Ведь его полномочия не такие, к примеру, как у польского коллеги, позволяющего себе аннулировать назначения уже утвержденных президентом некоторых послов. Среди отставленных – профессиональные дипломаты, прошедшие специальную подготовку для работы в странах назначения. Но у главы польского внешнеполитического ведомства, видимо, были свои резоны для такого решения, ставшего прецедентом. Впрочем, в белорусском внешнеполитическом ведомстве создаются свои прецеденты.

В связи с проявленным Хвостовым «гостеприимством» можно напомнить, что это не первый случай. От бывшего руководителя Рабочей группы, а теперь председателя ПА ОБСЕ Адриана Северина тоже требовали явиться в МИД Беларуси без посла Вика. И тогда это было отвергнуто. Какой образ Беларуси создают такие приступы «гостеприимства», догадаться не трудно.

Известно также отношение ее руководителя к известным четырем условиям, которые могут позволить вернуться Беларуси в Парламентскую ассамблею ОБСЕ и другие европейские структуры. Заявления о контрпродуктивности изоляции Беларуси, как всегда, в Минске воспринимаются по-своему. Любые признаки компромисса оппонентов Лукашенко воспринимает как их слабость. Понятно, что даже ОБСЕ со своим аморфным уставом не может позволить себе быть заложником своенравия одного человека. По мнению наблюдателей, такое положение, которое существует уже более пяти лет, пытаются учитывать такие члены ОБСЕ, как США, Англия и другие. Как признала г-жа Цапф на своей итоговой пресс-конференции, четыре условия сохраняются, а существующее положение Беларуси к мировому сообществу, больше следует называть самоизоляцией.

Есть основания полагать, что происшедшее на этот раз в Минске с рабочей группой ОБСЕ не останется без внимания на Бухарестской встрече министров иностранных дел. Появившимся в Европе после президентских выборов в Беларуси сторонникам другой, как им кажется, более прагматической и менее жесткой политики в отношении режима Лукашенко, после происшедшего с посланцами ОБСЕ вряд ли будет комфортно вести в Бухаресте дискуссии на белорусскую тему.

Видимо, Хвостов не без оснований надеялся, что на предстоящем 3 декабря заседании ему удастся плодотворно поговорить со многими своими коллегами. В первую очередь, надежды связывались с коллегами не из стран СНГ. Однако теперь трудно предположить, **что** им Хвостов может говорить. Впрочем, как и глава российского МИДа Игорь Иванов, который вынужден будет, надо полагать, что-то говорить коллегам по ОБСЕ по поводу поведения своего стратегического союзника.

Вряд ли можно назвать случайным совпадением то, что «гостеприимство» к ОБСЕ было проявлено накануне важного визита Лукашенко в Москву. Наблюдающие за его поведением не один год отмечают, что порывистость правителя носит спланированный характер. Попытки напомнить о себе родном каким-либо скандалом, до сих пор, как правило, приносило Лукашенко дивиденды. И кто бы чего ни говорил, а уже семь лет он играет. А с ним играют.

Находясь в натуженном мыслительном напряжении, некоторые московские и минские эксперты глубокомысленно полагают, что главной проблемой между Москвой и Минском стала «встроенность» их союза в ту новую конфигурацию в мире, которая возникла после происшедшей 11 сентября американской трагедии.

Вновь – уже в который раз – подбрасывается мысль, что в силу объективных причин белорусский правитель вынужден будет «встроиться» в новую действительность. С такими ожиданиями делятся одни эксперты и политики. Видимо, что-то похожее попытается произнести и Хвостов в Бухаресте.

К другой группе можно отнести тех, кто пытается доказать, что Беларусь в свое время стала полигоном для реаниматоров СССР и над ней продолжает довлеть субъективный фактор, который путем демократических выборов преодолеть нельзя. При этом некоторые из так думающих оппозиционеров надеются на помощь со стороны российских демократов, которых нередко стали называть государственными или имперскими.

Пока трудно сказать, какие из этих мнений помогут вывести Беларусь на путь истинный. Как и непросто представить, каким образом Путин собирается дальше развивать свою политику сближения с Западом, с которым его стратегический союзник просто запрограммирован на конфронтацию.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**АСВЕТА**

# Студэнты або тэрарысты?

У Камітэце дзяржаўнай бяспекі Беларусі не выключаюць, што ў краіне пад выглядам замежных студэнтаў могуць знаходзіцца асобы, што маюць дачыненне да міжнародных тэрарыстычных арганізацый.

Пра гэта 28 лістапада заявіў намеснік старшыні беларускага КДБ Валянцін Нікіцін, прадстаўляючы ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу законапраект аб барацьбе з тэрарызмам.

Паводле ягоных слоў, цяперашнім часам у ВНУ і іншых навучальных установах Беларусі вучацца каля 3 тысяч іншаземцаў больш чым з 50 краін. Толькі ў Мінску, паведаміў Нікіцін, па лініі міжнароднага гуманітарнага абмену вучацца і працуюць каля 2 тысяч замежных студэнтаў. «Маюцца звесткі, што некаторыя з замежных камерцыйных структур, што дзейнічаюць у нашай рэспубліцы на рынку платнай адукацыі, з'яўляюцца фіктыўнымі, – сказаў Нікіцін. – Нельга выключыць, што сярод студэнтаў, аспірантаў, стажораў могуць быць асобы, датычныя да міжнародных тэрарыстычных арганізацый».

**Юрый ПАЦЁМКІН**

 

